А. Радкевіч

# БЕЛАРУСКІ ЛЕМАНТАР

рысункі М. Кругловіча

вык. літар Э. Шпак

А. Радкевіч

# БЕЛАРУСКІ ЛЕМАНТАР

рысункі М. Кругловіча

вык. літар Э. Шпак



ау-ау-ау

а-а-а-а

у-у-у-у

ау-ау-ау

уа-уа-уа

*ау ау ау ау*



# М м

## Му-у. Му-у.

ау-ау-ау

уа-уа-уа

му-му-му

ма-ма-ма

ам-ам-ам

ум-ум-ум





ма-ма! ма-ма!

ма-ма ам-ам-ам!

уа-уа ма-ма!

му-му-му!

ма-му ау-ау-ау!

ма-ма. ма-му.

*мама*



# С с

а-са! а-са!

ма-ма, а-са!

са-ма ма-ма а-су...

а-са ма-му...

| | | |
|---|---|---|
| сам | а-са | са-ма |
| сум | а-су | ма-му |





# Шш

## шу - шу - шу

### ша-ша-ша

| | |
|---|---|
| шум | су-ша |
| сум | су-шу |
| сам | са-ма |

ма-ма су-ша 

сама сушу 





# Т т

та-та

та-маш

тут ма-ма

там та-та

са-ма ма-ма

сам та-та

у та-ма-ша



та-та та-ма-шу



ма-ма та-ма-шу



*т т тата*



# І і

# Ма-ма і та-та.

Та-та і ма-ма.

Та-маш і Сі-ма.

Тут ма-ма, а там та-та.




Мі-са і сі-та.

У Та-сі мі-са.

У Ту-сі сі-та.

*і і і міса і сіта*

# Н н



## Са-ні.

Ні-на і Нас-та.
У нас са-ні.
На-ша ма-ма.
Наш та-та.
У Та-ні і Та-ма-ша 
У Са-ні і Та-сі 

*н н н сані*



# Наш са□

Тут і

У нас мі-са, сі-та і

Та-маш на-сі

Ні-на на-сі

У Та-ні і Са-ні мі-са.

У А-сі і А-ні сі-та.

Нас-та на-сі ма-ту-сі

Ні-на на-сі та-ту



# Р р

## Ра-ма

| | | |
|---|---|---|
| Ра-ма | І-ра | Ра-і-са |
| Ра-на | Мур | Ра-ман |
| На-ра | Мір | Та-рас |
| Ра-са | Ру-са | Та-ма-ра |



На ру-ні
Там Ра-ман і Та-рас.
Ра-на на ру-ні ра-са.

*р р р рана*



# Ы

## Мы-шы

Ра-ма - ра-мы. Сыр - сы-ры.

Ра-на - ра-ны. Сын - сы-ны.

Шы-на - шы-ны. Мыш - мы-шы.

У на-ры мы-шы.

У ма-мы сы-ры.

У та-ты ма-шы-ны.

У Ні-ны тры тру-сы.





У нас ма-ма і та-та.
Мы у ма-мы і та-ты.
У ма-мы сыр.
На Ра-ман сы-ру.
На Та-маш сы-ру.
На Та-рас сы-ру.
Та-маш Та-рас і Ра-ман
сы-ны ма-мы і та-ты.



*у таты тры сыны*

# К к



## Куры

| | | |
|---|---|---|
| Мак | Ра-кі | Ка-ра |
| Рак | Ка-са | Кіс-ка |
| Сук | Ка-сі | Ма-кар |
| Ру-ка | Му-ка | Кус-кі |
| Ру-кі | Ка-ша | Куст |

У Ма-рын-кі ру-са ка-са.

У Ка-сі кіс-ка.

У Мі-кі-ты ра-кі.

*к к к макі*



# О о

## Кот

| | | |
|---|---|---|
| Кот | Ко-ні | Ко-нік |
| Кош | Ко-сы | Ко-шык |
| Рот | Ро-сы | Ка-ток |
| Сон | Мо-ра | Мас-ток |
| Рос | Но-ры | Ку-сок |
| Нос | Ро-ма | Ку-ток |
| Сок | То-ма | Тон-кі |
| Сто | Са-ро-ка | Мок-ры |

*о о о кот*



# Ракі

Тут рака і мост.

Тут ракі.

Наш Томка рака рукамі.

Томка мокры.

У Томкі сіні нос.



*сіні нос*



# Λ λ

## Стоλ

| | |
|---|---|
| Са-λа | Ма-λі-на |
| Сі-λа | На-λі-λа |
| Ма-λы | Ка-λо-λа |
| Мі-λы | Са-λо-ма |
| Мы-λі | Ко-λас |
| Λіс-ка | Шко-λа |
| Кіс-λы | Λіс-ток |

Міλа мыλа стоλік.

*Міла мыла стол.*



# Каток Мурлыка

Наш Мурлыка ласун.
Налі катку малака.
Каток малако лок-лок!
Мала катку малака.
На, каток, сыру.
Каток мур-мур-мур!

*Мурлыка ласун*



# П п

| | | |
|---|---|---|
| Пі-ла | Сноп | Па-ло-ла |
| Лі-па | Шап-ка | Ку-пі-лі |
| Ла-па | Па-нас | Па-мы-лі |
| Пі-шу | Па-лі-то | Па-шы-лі |
| Па-ра | Пі-ліп | Па-ра-ска |

Ко ні на па шы.

Па нас, па сі ко ні!

На по лі лі па.

На по лі ка лас кі.



# У школу

Сы мон ку і Пі ліп ку па ра у шко лу. Ма ма ку пі ла Пі ліп ку па лі то і ша лік. Ма ма ку пі ла Сы мон ку шап ку. Ма ма па шы ла ім ка шу лі.

Сы мон ка пі ша лі та ры.



*Сымонка піша*



# Нашы краскі

У нас шмат красак.

У Ларысы — ірысы.

У Насты — астры.

У Сымонкі — рамонкі.

У Мані — макі.

У Лілі — лілії.

У Марыны. — шыпшына.

# Е е



## Ел ка

| | | |
|---|---|---|
| По-ле | Елі | Мер-ка |
| Ле-та | Лес | Нес-ла |
| Се-на | Се-ні | Сет-ка |
| Се-лі | Ме-ра | Па-ле-на |
| Пе-лі | Па-се | Ка-ле-на |

Там по ле і лес.

У ле се ел ка, лі па, асі на.

У ле се мы е лі ма лі ны.

*е е е елка*

# З з



# Каза

| | | |
|---|---|---|
| Зі-на | Ко-зы | За-мок |
| Зо-ра | Ло-зы | Зе-ле-на |
| Лі-за | Зі-ма | Па-зем-ка |

У Зосі тры казы.

Зіна пасе козы.

Улетку на лузе зелена.

*з з з зіна*



# Д д

## Дом

| | | |
|---|---|---|
| Дом | Лі-да | Ку-ды |
| Дым | Ду-да | Ту-ды |
| Дам | Да-сі | Спа-дар |
| Сад | Да-лі | Док-тар |

*д д д дом*



# Наша каза

Зіна пасе казу за домам.
Зіна, Зіна, пара дадому!
Мама даіла казу.
Каза дала малака.
Ліда, Іра і Зіна елі з
малаком кашу.
З малака сыр, масла...

*Ліда даіла казу*

# Г г



## Гусі

| | | |
|---|---|---|
| Га-ра | Ган-на | Га-лі-на |
| Го-ры | Га-ні | Да-ро-га |
| Но-гі | Ду-га | Гор-ка |
| Ро-гі | Лу-гі | Іг-ру-ша |

Ганна, гані гусі!
Гусі, гусі, га-га-га!
Гусі, гусі, пара дадому!

*гусі, гусі га-га-га.*

# На лузе

За нашым садам лугі.
На лузе касілі сена.
Сена елі коні, козы...
Мы селі на сена і пелі.
У сене скакалі конікі.



# В в



## Вілы

| | | |
|---|---|---|
| Ва-да | Ва-га | Зва-нок |
| Ва-та | Во-ка | Ка-вун |
| Ве-ра | Ні-ва | Ве-нік |
| Во-ка | Ві-но | Тва-рог |
| Ві-лы | Ка-ро-ва | Ва-ро-ты |
| Вы-лі | Во-зе-ра | Ва-ро-на |
| Со-вы | Га-ла-ва | Па-вет-ра |



# Х х



## Мухі

| | | |
|---|---|---|
| Ха-та | Хор | Хім-ка |
| Му-ха | Пух | Ха-лі-мон |
| Су-ха | Дух | Хут-ка |
| Ву-ха | Мох | Ха-мут |
| Га-рох | Мех | Ха-ро-шы |

Гані мухі з хаты.

Хата Хімкі за лесам.

*х х х хата*

# Мухі

Хімка і Вера пілі каву і елі сыр з маслам.

Мухі шмыг у хату праз акно. Адна муха села на сыр і патаптала масла нагамі.

Хімка і Вера елі тое масла.

Хімка стогне ох! ох!

Страшна стала маме.

Папрасіла мама доктара.

Доктар выпіша горкага леку.



# Й

# Зайка

| | | |
|---|---|---|
| Дай | Лей-ка | Мый |
| Май | Ву-лей | Шый |
| Мой | Зі-мой | Твой |

Холадна зайку узімку.
Зайка па лесе скок-скок.
Зайка за елкай.
Хавай, зайка, вушкі!

*Хавай зайка вушкі.*

# Б б





## Баба

| | | |
|---|---|---|
| Блі-ны | Ры-ба | Бу-ра-кі |
| Бра-ма | Бай-ка | Ра-бі-на |
| Бу-ра | Бур-ка | Са-ба-ка |

Мы зрабілі бабу.

Потым сталі у кола, скакалі і пелі.

Бобік і Мушка былі з намі.



# Узімку

За зайкам бегла ліска.

Зайка поле перабег і скок у бор.

У полі бела, у бары бела, і сам зайка белы.

Ліска згубіла зайку.

Зайка за хвойкай.

Ліска пабегла у другі бок.



*Сабака пабег за лісам*

Дай — даў
Рой — роў
Грай — граў
Бе-гай–бе-гаў

# Ў ў

Саў-ка
Воўк

Саўка запрог свайго
Сіўку і паехаў у лес.
Саўка насек дроў.
Доўга быў у лесе Саўка.
Позна прыехаў дахаты.
Вышаў з хаты Паўла.
Саўка і Паўла выпраглі
Сіўку.

*Саўка насек дроў*



# Ю ю

## Мыю шыю

| | | |
|---|---|---|
| Юр-ка | Да-ю | Юш-ка |
| А-ню-та | Се-ю | Люб-лю |
| Лю-ба | Лю-лі | Лаў-лю |
| Лю-да | Лю-ты | Раб-лю |

- Што робіш, Юрка?
- Рыбу лаўлю!
- Нашто табе?
- Юшку люблю!

*ю ю ю люлі*



# Ц ц

## Цацкі

| | | |
|---|---|---|
| Ці-ха | Цу-кар | Па-цер-кі |
| Ко-цік | Сон-ца | Цу-кер-кі |

Мама купіла Цімку цацку і цукерак. А Ганцы пацеркі. Ціха ў хаце. Цімка з цацкамі. Ганка рысуе. Мама шые. Коцік паціху цікуе мышку.

*ц ц ціха ў хаце*



# Ё ё

# Вавёрка

| | | |
|---|---|---|
| Ён | Ка-зёл | Цёт-ка |
| Лён | А-сёл | Сёс-тры |
| Нёс | А-вёс | Ка-лё-сы |
| Мёд | Зёл-кі | Сё-ле-та |
| Вёз | А-лё-на | Ва-вёр-ка |

Цётка Алёна палола лён.
Сёстры памагалі цётцы.
Сёлета цёпла.

*ён нёс лён*

# Ч ч



## Ключ

| | |
|---|---|
| Ноч | Зай-чык |
| Чо-вен | Ко-зач-ка |
| Ча-бор | Кач-ка |
| Ча-рот | Печ-ка |
| Чы-гун | Авеч-ка |
| Чыс-та | Вуч-ні |
| Чор-ны | Хлоп-чык |
| Чы-та-е | Ча-ла-век |





– Чаго плачаш, хлопчык?
– Капейку згубіў.
– Маеш тры. Вытры вочкі!

Хлопчык плача зноў.

– Ну, чаго ты зноў плачаш?
– Каб меў тую, што згубіў, то было-б разам чатыры.

*чаго плачаш*

  

# Э э

## Гарэхі

| | |
|---|---|
| Рэ-па | Га-зэ-та |
| Рэ-ха | Рэ-ша-та |
| Гэ-ты | Га-рэ-лы |
| Гэ-ля | Грэч-ка |
| Мэ-та | Па-рэч-ка |
| Цэ-лы | Анд-рэй |
| Грэ-е | Нуп-рэй |
| Сэр-ца | Рэч-ка |

*э э э гэта рэпа*



# Жж

## Жаба

| | | |
|---|---|---|
| Жук | Жне-і | Жар-ты |
| Жа-ба | Са-жа | Жоў-ты |
| Жа-лі | Ка-жа | Рож-кі |
| Жы-та | На-жы | Нож-кі |
| Жы-ве | Ву-жы | Каж-ны |

Жнеі жалі жыта.

У балоце жыве жаба.

*ж ж жнеі жалі*

# Жук і Жэўжык

У нас сабака Жук.
У суседа Жэўжык.
Жук чорны, кудлаты.
Ён дужы і паважны.
А Жэўжык малы, пад-
жары, жвавы.
Жук і Жэўжык дружакі.
Уначы Жук старожу
трымае, брэша, ваўка
пужае. А Жэўжык Жуку
памагае.



# Ь

Стол -столь
Вугол-вуголь
Лез -лезь
Кон -конь

| | | |
|---|---|---|
| Соль | Мі-хась | Пісь-мо |
| Боль | Ан-тось | Буль-ба |
| Цень | А-лень | Сьпеў |
| Пень | А-гонь | Сьнег |

Міхась і Антось капалі бульбу.

*Антось і Міхась*

# Ф ф



## Фантан

Ша-фа

Фо-то

Фо-кус

Фа-сон

Фі-кус

Шу-фаль

Муф-та

Стэф-ка

Ку-фар

Аф-ры-ка

*ф ф ф муфта*



# Я я

## Ялінка

| | | |
|---|---|---|
| Я-ня | Зя-лё-на-я | Зо-ся |
| А-ся | Вя-сё-ла-я | Ва-ля |
| Зо-я | Ка-лю-ча-я | Ві-ця |
| Ю-ля | Па-ху-ча-я | Ян-ка |



Яліначка, ялінка!
Зялёная дравінка!
Калючая, пахучая,
Зялёная мая!

*я я я зялёная*



# Дз

| | |
|---|---|
| Дзе-ці | Дзя-нёк |
| Дзя-док | Дзя-куй |
| Дзя-га | Дзі-чка |
| Дзі-ва | Са-дзіў |

Прыгожы ясны дзянёк.
Дзядок садзіў дзічкі.
Дзеці памагалі дзядулю.

*Дзядок і дзеці*



# Дж

| | |
|---|---|
| Дождж | Са-джу |
| Дрож-джы | Ха-джу |
| Бар-джэй | Ва-джу |

Дожджык, дожджык
капдыкап!
Ты ня капай
доўга так!
Дожджык, дожджык
льлецца,
у рукі не даецца.

*дожджык*



Сям'я
П'е
Б'е

Вераб'і
Аб'ява
Надвор'е

# Наша сям'я

У нас сям'я вялікая.
Мама, тата, брат, сястра і цётка Мар'яна.
Увечары ўся сям'я п'е каву.

*сям'я п'е каву*

Аа Бб Вв Гг Дд

Дз дз Дж дж

Ее Ёё Жж Зз

Іі Йй Кк Лл Мм

Нн Оо Пп Рр Сс

Тт Уу Ўў Фф Хх

Цц Чч Шш Ьь Ыы

Ээ Юю Яя

*Аа Бб Вв Гг Дд*

*Dz dz Dж dж*

*Ее Ёё Жж Зз з*

*Іі Йй Кк Лл*

*Мм Нн Оо Пп*

*Рр Сс Тт Уу*

*Ўў Фф Хх Цц Чч*

*Шш ь ы Ээ Юю*

*Яя*

# КАЛЯДЫ

## Ялінка

На Каляды у нас была прыбрана ялінка.

На ёй бліскучыя цацкі, шнурочкі шэрані, зорачкі, цукеркі, яблычкі і шмат-шмат усяго.

Увечары запалілі сьвечкі, лямпачкі і ліхтарыкі.

Ялінка стала прыгожай.



## Падарункі

Мама і цёця Юля раздалі падарункі:
Віцю-коніка, Зосі-ляльку, мне-кнігу, тату-запальніцу.
А мы з татам прыгатавалі маме малюнкі і пацеркі, цёці Юлі-хустачку і каўнерык.

## Госьці

Увечары прыйшлі нашыя сябры: Юрка, Алеся і Люця.
Мы гулялі ў кола, пяялі і скакалі каля ялінкі.
Тут прышоў да нас Мароз-Чырвоны Нос. Ён прынёс мех падарункаў.. Кожнаму даў па пакунку гасьцінца.

* *
*

У куце сядзіць мядзьведзь,
Хустку вышывае,
А лісічка-невялічка
Хатку падмятае.
А каток пячэ аладкі,
Масла падлівае.
Кацянятькі жвава-гладка
Катку памагаюць.
Дзядок-вожык пад куфэркам
Доўга лічыць грошы,
Ён бармоча, баламоча,
А зьлічыць ня можа.

## Разам лепш

Кажа брат да сястры:
– Не чапай майго коніка.
Кажа сястра брату:
– А ты не чапай маіх лялек.
Селі яны ў розныя куткі
і пачалі гуляць асобна.
Але скора ім стала сумна.
Чаму ім стала сумна?

## Госьці

Лады, лады, ладкі,
А дзе былі? – У бабкі,
А што елі? – Кашку,
А што пілі? – Бражку,
Чым закусвалі?
– Піражком.

## Кую-кую ножку

Кую-кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Дарожка крывая,
Кабылка кульгае.
Паедзем далёка,
Дзе жыве сарока,
За чатыры мількі
Аж да Кацярынкі.
Сьцеражыся, хлопча,
Цябе конік стопча!



## Мама

Зосі было пяць гадоў.
Пайшла раз мама на рынак і ўзяла з сабой Зоську.

Зоська на рынку згубілася. Пачала яна горка плакаць. Сабраўся каля яе натоўп.

-Чыя ты, дзяўчынка?-пытаюць.
Зоська маўчыць, ня ведае.

-Як завуць тваю маму?

-Ня ведаю,-кажа Зоська.

-А якая твая мама?

-Найлепшая, найпрыгажэйшая за ўсіх.

---

*У каго ёсць матка,*
*у таго галоўка гладка.*

## Кот і мышка

Быў у нас шэры кот. Кот ляжаў на сонейку і грэўся.
Мышка думала, што кот сьпіць. Падыйшла мышка блізка да ката
Кот скок-і схапіў мышку.

## Каток і рыбка

Пайшоў каток пад масток.
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому есьці?
Ці дзетачкам несьці?
Я й сам разок укушу
І дзетачкам занясу.

# Дружба

Захварэў Рабчык. Янка падаслаў яму сьвежага сена. Паіў яго цёплым малаком. Даглядаў яго, як мог.

Рабчык паздаравеў. Ён усюды бегаў за Янкам.

Аднаго разу Янка пайшоў у рыбу. І Рабчык за ім. Пасьлізнуўся Янка, уваліўся ў ваду і пачаў тапіцца. Рабчык кінуўся ў ваду і выцягнуў Янку на бераг.

Ад тэй пары Янка не разлучаецца з Рабчыкам.

## Кароткая гутарка

Неяк сьвятым днём пякла маці аладкі.

А сынок Габрусёк круціуся каля яе дый кажа:

-Чаму вы, мама, са мной не гаворыце?

-Бачыш-жа, што ня маю часу. Дый што-ж мне табе гаварыць?

-Ну, хоць што.... Вось сказалі-б:
На табе, Габруська, аладачку.

---

*Хто пытае,*
*той ня блудзіць.*
*Хто шукае,*
*той здабудзе.*

## Лыжка

Прысьнілася Юрку уначы каша, ды лыжкі ня было. На другі дзень узяў Юрка у пасьцель лыжку, ды каша ня прысьнілася.

## Гаспадарлівы хлопчык

– Паіў ты каня? – пытае тата сына.
– Паіў.
– А чаму-ж у яго морда сухая?
– Бо да вады не дастаў.



# Вясна

Пасьля зімы надыходзіць вясна. Увесну сьнег растае. Зямля награецца. На ёй вырастае трава й краскі. На дрэвах - зялёныя лісточкі. Зь цёплых краін прылятаюць птушкі. Сонейка на небе бывае даўжэй і грэе цяплей.

Веснавыя месяцы: сакавік, красавік,
травень.

Тае сьняжок.
Зелянее лужок.
Дзень прыбывае.
Калі гэта бывае?

/Увесну/

# Птушкі ўвесну

Надыходзіць вясна. Кожная птушка сваім голасам адзываецца.

Зазьвініць высака ў небе жаўранак:

Дзеці, дзеці, беце сьнег
Кіем, кіем, кіем!

Верабейчык радасна чылікае:

Жыў, жыў, жыў
Зіму пераджыў!

А ластаўка шчабеча:

Перапілі-пераелі,
Перапушчылі.
Чые дзеці, чые дзеці?
Кастусьчыны.

Салавейка ў бярэзьнічку заліваецца

А ў лядзе, ў лядзе

Сьцяпан сала пёк-пёк-пёк!
Круціу-круціу т-р-р-р-р!
Сала кап-кап-кап
Кусь-сь-сь
Смачна!
А варона нападае:
Украў-украў-украў!
А зязюлька заступаецца:
Ку-піў, ку-піў, ку-піў!





# На дварэ

Курка. Куд-ку-дак, куд-ку-дак.
Зьнесла яйка, як кулак!
Качка. Кра-кра-кра, а я два!
Гуска. Го-га-га! Так няльга!
Цюцька. Гаў-гаў-гаў, я-б яго ўзяў!
Пеўнік. Ку-ка-рыку, Ку-ка-рыку!
Не чапай, бо будзе крыку!
Парасё. Заб'ю, заб'ю!
Гуска. Каго, каго?
Цялё. Мян-е Мян-е!



# Люлі, люлі, люлі

Люлі, люлі, люлі!
Прыляцелі куры.
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці.
Што курачкам даці?
Ці бобу каробу?
Ці жыта карыта?
Ці гарошку трошку?
Ці ячменьку жменьку?
Трэба даць ім грэчкі,
Каб несьлі яечкі.



# Яечка

Жыў дзед, жыла бабка. Была ў іх курачка-Рабка. Зьнесла курачка яечка.

Дзед біў-біў-не разьбіў.

Бабка біла-біла-не разьбіла.

Бегла мышка, хвосьцікам матнула і разьбіла.

Дзед плача, бабка плача, а курачка сакоча:

-Ня плач, дзед, ня плач, бабка! Я зьнясу вам яшчэ яечка, ды не такое, а залатое.

Загадка:

Поўна бочачка віна, без абручыка, бяз дна

/Яечка/

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

## Перад вялікднем

Вялікае сьвята-Вялікдзень. Вялікае і вясёлае. Дзеці яго даўно чакаюць. Усё цікава перад сьвятам. У хаце прыбіраюць, пірагі пякуць, шынку парасё смажаць. Усё так смачна пахне, а пакаштаваць нельга-пост.

## Вялікодныя яечкі

Перад Вялікднем нахварбавалі яечак. Поўнае рэшата з горкай. Тут і чырвоненькія, і буранькія, і зяленянькія, і жоўценькія. Есьць нават у крапінкі і ў пасачкі. Нібы краскі выглядаюць. А шмат яечак нахварбавана! Будзе і для сябе і для валачобнікаў.

## У вялікодную сыботу

Чыста, ціха і ўрачыста ў хаце. Работы ўсе скончаны. Абновы на сьвята мае кожны. Стол прыбраны.

Ля стала стаяць два кошыкі. У іх прыгатавана ўсяго патрошку з вялікоднага стала. Гэта тата з Міхасём панясуць у царкву асьвячаць сьвячонае.

Прыдзе тата з царквы і скажа:

Хрыстос Уваскрос!

А мы ўсе адкажам:

Запраўды Уваскрос!

І толькі тады сядзем за стол разгаўляцца.



# Непарадак

-Сьвіначка, дзе была?
-Да суседа на двор бегала.
-Што-ж ты там бачыла?
-Непарадак вялікі. Усюды падмецена, падчышчана. Нідзе ніякіх атрускаў, ні сьмяцьця няма, ні лужынкі з гразёю. Няма дзе парыцца, ні ў гразі пакачацца.
Непарадак ·дый годзе.

---

Загадка.

Нічога ня згубіла,
а ўсё шукае.
Нічога не баліць,
а ўсё стогне.
(кнігла)

## Стэфчына казачка

Стэфка пытае сваю маму:
- Ці любіш ты, мамачка, казкі?
- Вельмі люблю, дзетачка.
- Можа табе расказаць?
- Раскажы-паслухаю.
- А ці спадабаецца яна табе?
- Напэўна спадабаецца.
- Ну дык вось. Жыла была дзяўчынка Стэфка.
І была ў яе паліваная місачка. Стаяла місачка на століку.
Стэфка бегла, зачапіла місачку.
Місачка звалілася і разьбілася.

## Вераб'іны страх

Вераб'і выдзёўбвалі гарох з градкі. Пабачылі гэта дзеці.

Надумаліся яны зрабіць пудзіла. Пудзіла зрабілі страшное.

Рукі ў бакі расстаўленыя.

Вочы лупатыя. Нос вялікі.

Лахманы гойдаюцца ад ветру. Шапка кудлатая, вялікая.

Аж самым дзецям страшна стала.

А верабей прыляцеў, сеў на галаву і скубе вату сабе на гняздо.

Вось табе і вераб'іны страх.

Чы-чы-чы-чы, верабей
Ня клюй маіх канапель.
А я таму вераб'ю
Калом ногі пераб'ю.

# Здагадлівая варона

Варона хацела напіцца. Бачыць, стаіць збанок. А ў збанку вада.

Але ніяк не дастаць вароне, бо вада нізка. Тады пачала варона насіць каменьчыкі і кідаць у збанок.

Вада паднялася. Варона напілася уволю.



# Лета

Пасьля вясны надыходзіць лета. Улетку раніцай і ўвечары цёпла, а ўпоўдні горача. Сонца стаіць высака на небе. Улетку дні даўгія, а ночы кароткія.

На полі пасьпявае ўсялякае збожжа: жыта, пшаніца, ячмень, авёс.

У лесе шмат ягад: суніцы, чарніцы, маліны.

Улетку косяць лугі, жнуць збожжа.

Летнія месяцы: чырвень, ліпень, жнівень.

Сонца пячэ,
Ліпа цьвіце,
Жыта пасьпявае,
Калі гэта бывае?

/Улетку/

# Зайчык

-Зайчык маленькі!
Чым ты жывенькі?
-Я й сам дзіўлюся,
Чым я жыўлюся.

Пасадзіў капусту
Ні рэдка, ні густа.
Пайду я рана
Капуста парвана
Пайду я позна
Капуста розна.



# Зайцава гора

Сеў зайчык ля пянёчку ды задумаўся.

-Цяжка мне на сьвеце жыць. Усе мяне крыўдзяць Ніхто мяне не баіцца. Пайду з гора ды ўтаплюся.

Ідзе зайчык да рэчкі. На беразе сядзела жабка. Чуе яна, нешта шаснула. Жабка падумала,-гэта бусел. Скок жабка ў ваду перад самым зайчыным носам.

-Ого!-падбадзёрыўся зайка. Ня трэба мне тапіцца. Мяне жабка баіцца.

Бусел, бусел даўганосы
Па балоце ходзіць босы.

# Конікаў баль

Я найму дудара,
Дударыка-камара,
Грай, дударыку, грай!
А ты, муха, выцінай!
Грай на йскрыпцы, сьляпень!
На басэтлі, авадзень!
Чмель у бубен бубні!
Шэршань песьню утні!
Я хачу паскакаць
Усіх на баль пасклікаць.



## Сам вінаваты

Кажа мама да Ганулькі:
-Ганулька, навошта-ж ты цягнеш катка за хвост? Гэта-ж яму баліць!
-Я, мамачка, не цягну. Я толькі трымаю за хвост. А каток сам цягне ды яшчэ й крычыць

## Вось дык братка

-Што-ж гэта ты Пятручок, паеў, паеў усе ягадкі, а аб малой Зосьцы і не падумаў?
-Я, мамачка, усё думаў, усё думаў, каб хаця яна ня прыбегла, пакуль я зьем.

# Кіска

Ціха, кіска, ціха, братка.
У калысцы сьпіць дзіцятка.
Будзь-жа добранькі глядзі,
Дзіцянё не разбудзі!

Ах ты, кіска, ах паганы!
Скінуў міску з кашкай маннай.
Галубкі лятуць, лятуць,
Гэту кашку падзяўбуць.

Чуеш, кіска, блізка-блізка
Мышка блудзіць, дзетку будзіць.
Час ня траць-жа ані-ні,
Гэту мышку прагані!

---

*Для мышы і кот зьвер.*

## Упарыстыя козьлікі

Праз глыбокі ручай ляжала вузенькая кладачка. На ёй спаткаліся два козьлікі. Козьлікі не хацелі саступіць з дарогі адзін аднаму.

Пачалі яны стукацца рагамі.

Біліся-біліся ды абодвы ў ваду ўваліліся



# Ведай сваю справу

-Ну, вось, Рудзька, прачытай, што ў кніжцы напісана.

Панюхаў Рудзька кнігу, махнуў хвастом і пайшоў проч.

-Не мая гэта справа кніжкі чытаць. Я двор сьцерагу, начамі ня сплю, ваўкоў і зладзеяў палохаю. А кнігі ты чытай сам.



# Вёска ўлетку

Пусты ўлетку нашы сёлы.
Ўсе на полі за сярпом.
Толькі дзетак крык вясёлы
Льлецца вуліцай руччом.

Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар,
Зь імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле як дар.



# Акуляры

Бачыў Пятручок, што тата,
калі чытае, адзявае акуляры.
І пачаў ён прасіць тату:
-Купі мне, татачка, акуляры.
Я хачу, як і ты, кнігі чытаць.
-Добра,-кажа тата,-куплю
табе акуляры, толькі
дзяціныя.
І купіў сынку лемантар.

Загадка:
Сядзіць конна на носе, а ногі
за вушамі.

/Акуляры/.

# На рэчцы

Весела на рэчцы
І траве, і кветцы,
І крылатым пташкам,
Мошкам і мурашкам,
І крыклівым дзеткам,
Асабліва леткам.
У рачулцы купаюцца,
У пясочку качаюцца.



## Роднае-любае

У роднай старонцы
Ясна сьвеціць сонца.
У роднай сям'іцы
Гора ня прысьніцца.
Родная матуля
Прыгарне, утуліць,
Сестры і браточкі
Закалышуць ночкай.
Дык аддай нам, Божа,
Зноў наш край прыгожы!
Дай вярнуцца дзеткам
На свае палеткі!
Да нябёсаў ясных,
Да зялёных ніваў.
Дай расьці у шчасьці
Усім людзям на дзіва!